**АПК**
**БЕЗ СПАСЫЛАК НА СТЫХІЮ** 2 стар.
**ГАСЦЁЎНЯ**
**«КАСМІЧНЫ АРХІЎ» АВІЛАВА** 3 стар.
**АЛІМПІЙСКАЯ ХРОНІКА** 3 стар.



**СПАДЧЫНА**
**ЛЕГЕНДЫ ПРА БЕЛАРУСКІЯ БАЛОТЫ** 5 стар.
**АСОБА**
**СУСТРЭЧЫ З Валянцінам ЖДАНОВІЧАМ** 4—5 стар.
**БЕЛАРУСКАЯ МЕНШАСЦЬ У ПОЛЬШЧЫ** 6 стар.



**АПАВЯДАННЕ Леаніда МАРАКОВА «КАНІКУЛЫ»** 7 стар.
**СЮРПРЫЗЫ «ЗАЛАТОГА ЛОКАНА»** 3 стар.
**ЗАХАВАЙ ТРАДЫЦЫЮ: ВЯЛІКДЗЕНЬ...** 8 стар.



**АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА** **РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ**

# Голас Радзімы

26 красавіка 2000 года
Цана 75 рублёў

№ 17 (2679)

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі
Выдаецца з 6 красавіка 1955 года

## 26 КРАСАВІКА – 14-я ГАДАВІНА ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ ТРАГЕДЫІ



● **Раман КАБЯК, БелТА.**

Чарнобыльская трагедыя сур'ёзна адбіваецца на здароўі і самаадчуванні людзей, якія пражываюць у забруджанай радыенуклідамі зоне. Узрастае колькасць сардэчна-сасудзістых, эндакрынных і анкалагічных захворванняў. Асаблівы ўдар "нябачны вораг" наносіць дзецям, паслабляючы іх імунную сістэму. Адчуваецца востры недахоп танных лекаў. Пры тым, што ў Беларусі некалькі медыцынскіх ВНУ, у многіх амбулаторыях няма дыпламаваных урачоў.

У Радзігераўскай урачэбнай амбулаторыі Лунінецкага раёна працуе сем чалавек медыцынскага персаналу, яе наведваюць каля паўтары тысячы чалавек, але і тут восьмы год няма ўрача-тэрапеўта. Яго функцыі выконвае фельчар вышэйшай катэгорыі, медык з 28-гадовым стажам Іван Піліпцэвіч. Калі б не дапамога перасоўвачных спецыялізаваных медыцынскіх брыгад і арганізацыі Чырвонага Крыжа, мясцовым медыкам працаваць было б яшчэ складаней.

НА ЗДЫМКУ: на прыёме ў Івана ПІЛІПЦЭВІЧА работніца жывёлагадоўчай фермы Людміла АЦІБОР з сынамі Сашам і Антонам.

**АСПЕКТ ПРАБЛЕМЫ**



# РЭСТАЎРАЦЫЯ...

**На Беларусі Сусветны дзень помнікаў і гістарычных мясцін адзначаецца з 1984 года. Старшыня Камітэта па ахове гісторыка-культурнай спадчыны Дзмітрый БУБНОЎСКІ і старшыня Камітэта па рэстаўрацыі і кансервацыі помнікаў Васіль АБЛАМСКІ сустрэліся з журналістамі.**

Дзмітрый Бубноўскі падкрэсліў, што ў савецкія часы архітэктурныя помнікі разбураліся ці не даглядаліся з-за ідэалагічных меркаванняў. Пануючая ідэалогія ваяўнічага атэізму зрабіла магчымымі зняважлівыя адносіны да культавых збудаванняў. У іх месціліся збожжасховішчы, жывёлагадоўчыя фермы. У палацах жа — Дамы адпачынку, санаторыі (самы вядомы ў замку Радзівілаў, што ў Нясвіжы). Тэхнічны стан збудаванняў з прычыны ўзаемадзеяння прыродных, сацыяльных фактараў пастаянна пагаршаўся. І сёння большасць архітэктурных і гістарычных будынкаў знаходзіцца ў нездавальняючым стане. А іх рэстаўрацыя ўскладняецца неспрыяльнымі сацыяльна-эканамічнымі ўмовамі. Але яна адбываецца.

Рэстаўрацыя і аднаўленне маюць некалькі аспектаў. Па-першае — гэта стварэнне належнай прававой базы. Дзмітрый Бубноўскі падкрэсліў, што закон РБ аб ахове гістарычнай спадчыны — адзін з лепшых у Еўропе. Гэта адзначана і на міжнародным узроўні, у прыватнасці, у Савеце Еўропы. Другі аспект — пошукі інвестараў для рэстаўрацыйных і аднаўленчых работ. Прыкладам такога падыходу з'яўляецца дзейнасць акцыянернага таварыства "Стары Мінск", якое займаецца рэканструкцыяй Верхняга горада ў сталіцы.

**(Заканчэнне на 2-й стар.).**

**АКТУАЛЬНА**

# ВІЗІТ ІМКЛІВЫ І ЗАГАДКАВЫ

● **Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

Прыезд расійскага прэзідэнта Уладзіміра Пуціна ў Беларусь даў падставы айчынным афіцыйным палітыкам разважаць пра перспектывы Саюза Беларусі і Расіі з павялічаным энтузіязмам. Прычым эмоцыі і эйфарыя ад таго, што свой першы замежны візіт У. Пуцін здзейсніў менавіта ў Мінск, нават засцілаюць факталагічную інфармацыю. У Беларусі ўбачылі ў першай паездцы расійскага прэзідэнта знакавасць і сімвалічнасць. Маўляў, Расія абрала менавіта Беларусь прыярытэтам сваёй знешняй палітыкі. На самай справе пераацэньваць факт прыезду У. Пуціна ў Мінск не трэба.

Нельга забываць, што праграма знаходжання прэзідэнта Расіі ў беларускай сталіцы не была вядомая да самага апошняга моманту і цалкам залежала ад праграмы яго знаходжання ў Лондане, куды У. Пуцін накіраваўся непасрэдна з мінскага аэрапорта. У выніку на беларускай зямлі расійскі прэзідэнт і світа яго чыноўнікаў знаходзіліся толькі некалькі гадзін, пасля чаго паспяшаліся на важную сустрэчу з Тоні Блэрам. Калі прааналізаваць расійскую прэсу, то нельга не заўважыць, што асноўная частка рэпартажаў пра вояж У. Пуціна па Еўропе датычыць менавіта перамоў у Лондане. Пра Беларусь у расійскіх СМІ згадваецца толькі ўскосна. Прычына гэтага ў тым, што расійскі бок больш цвяроза ацэньвае вынікі перамоў у Мінску. Расія лічыць візіт У. Пуціна ў Беларусь не больш, чым жэстам ветлівасці новага прэзідэнта ў бок Беларусі і яе кіраўніцтва. Гэта і зразумела: Беларусь з'яўляецца нязменным і адначасова адзіным пастаянным саюзнікам Расіі на знешняй арэне.

Вынікі перамоў у Мінску таксама не даюць падстаў гаварыць пра нейкія кардынальныя змены ці зрухі ў адносінах дзвюх краін. Шырокаму колу грамадзян так і невядома, пра што дакладна гаварылі абодва прэзідэнты, у якім характары вялася размова і да якіх дамоўленасцей яны прыйшлі. На кароткім брыфінгу ў рэзідэнцыі "Заслаўе" і У. Пуцін, і А. Лукашэнка былі нешматслоўнымі і абмежаваліся дзяжурнымі і вельмі агульнымі выказваннямі. Напрыклад, У. Пуцін сказаў: "Мы з Аляксандрам Рыгоравічам аналізавалі сітуацыю па рэалізацыі Дагавора аб стварэнні Саюзнай дзяржавы, будавалі планы на бліжэйшую будучыню. Размова ў асноўным вялася аб маючым адбыцца пасяджэнні саюзнага Савета Міністраў 25 красавіка, яго парадку дня. Акрамя таго, мы гаварылі пра выбранне саюзнага парламента, прыняцце Канстытуцыйнага акта, а таксама пра сінхранізацыю нашай дзейнасці ў знешняй палітыцы, сферы ваенна-тэхнічнага супрацоўніцтва і, зразумела, у эканамічнай сферы. Бо эканоміка — гэта падмурак, на якім павінны будавацца нашы ўзаемаадносіны. Гэта прыярытэтны накірунак нашай дзейнасці. Усе пытанні дыскуціраваліся, і па некаторых мы дасягнулі дамоўленасцей. Можна сказаць, мы дасягнулі ўзроўню падрыхтоўкі дакументаў, якія будуць падпісаны ў бліжэйшы час".

Аляксандр Лукашэнка, у сваю чаргу, заявіў: "Прыезд прэзідэнта Расіі ў нашу краіну, калі можна так сказаць, першы яго замежны візіт. Гэта сімвалічна. Гэта сведчыць, што шлях, які пройдзены яшчэ з першым прэзідэнтам Расіі Барысам Ельцыным, а потым з Уладзімірам Пуціным, пройдзены не дарэмна. Сёння наўрад ці трэба глыбока канкрэтызаваць нашыя дамоўленасці. Але я лічу, што ўнесены значны ўклад у развіццё Дагавора аб стварэнні Саюзнай дзяржавы. Мы і далей будзем гэта рабіць. Гэта не блеф. Мы пабудуем годную Саюзную дзяржаву, трывалы саюз, які быў невядомы на сучаснай постсавецкай прасторы".

Такім чынам, у словах прэзідэнтаў шмат эмоцый, але мала інфармацыі, якая б пралівала святло на характар і тэмы іх перамоў. Пасля прыезду У. Пуціна ў Беларусь з дакладнасцю можна казаць толькі пра тое, што Масква мае інтарэс да Беларусі. І ён быў прадэманстраваны. Масква імкнецца мець уплыў на Беларусь, прынамсі, як і на Украіну, куды Пуцін паляцеў з Вялікабрытаніі. Але характар інтарэсу расійскіх палітыкаў у адносінах да Беларусі, верагодна, выявіцца пасля 25 красавіка, а, можа, нават і пазней.

**ВЕСТКІ З СУПОЛАК: РАСІЯ**

Наша таварыства Беларускай культуры дамовілася з адной з ніжнегародскіх газет аб вядзенні спецыяльнай рубрыкі. Мяркуем змяшчаць там і матэрыялы з "Голасу Радзімы". Абавязкі перакладчыка ўзяў на сябе А. Бараховіч.

**Ю. ПЛЯШКЕВІЧ,**
**старшыня праўлення Ніжнегародскай абласной арганізацыі Беларускай культуры.**

АСПЕКТ ПРАБЛЕМЫ

# РЭСТАЎРАЦЫЯ...

Пачатак на 1-й стар.

Падчас рэстаўрацыйных работ таварыства да яго былі пэўныя прэтэнзіі. Але дзяржаўныя ўкладанні ў рэстаўрацыю Верхняга горада складаюць толькі 5—7 працэнтаў. Адна з магчымасцей захаваць некаторыя будынкі — перадаць аб'екты ў прыватную ўласнасць з умовай іх рэстаўрацыі. Прыклады такога падыходу ёсць у Полацку, Мінску.

Вельмі дапамагае ў аднаўленні архітэктурных помнікаў удзел у гэтай справе мясцовых улад. Так, па словах Васіля Абламскага, для рэстаўрацыі драмтэатра ў Магілёве мясцовы аблвыканкам выдзеліў 600 мільёнаў рублёў (з дзяржбюджэту атрымалі толькі 120 мільёнаў рублёў).

Адной з галоўных праблем з'яўляецца захаванне інтэлектуальнага патэнцыялу ў галіне аховы помнікаў архітэктуры. Маецца на ўвазе не толькі стварэнне ўмоў для працы архітэктараў, майстракоў, рэстаўратараў, але і наладжванне быту творцаў.

На адселеных, забруджаных радыяцыяй тэрыторыях таксама засталіся помнікі архітэктуры. Магчыма, некаторыя культавыя забудовы пасля правядзення дэзактывацыі і кансервацыі будуць перанесены ў "чыстыя" раёны на месца разбураных у савецкія часы храмаў.

А цяпер пра Гальшанскі замак, у мінулым уласнасць Сапегаў. Наступныя пасля магнатаў гаспадары разбуралі будынак, прадавалі з яго цэглу. За польскім часам у рэштках замка размяшчалася жывёлагадоўчая ферма. На пачатку 80-х знайшлі сродкі, каб вывезці ферму. Далей неабходна было праводзіць кансервацыю. Але скончыць яе, тым больш правесці рэстаўрацыю не ўдалося. Няма бюджэтных сродкаў. А камерцыйнай цікавасці аб'ект не ўяўляе. На сённяшні дзень там няма нават аховы. Замак разбураецца.

Косаўскаму палацу пашанцавала больш. Існуе прапанова аднаго прадпрыемства (Д. Бубноўскі адмовіўся назваць яго) прыняць палац ва ўласнасць з умовай адрэстаўраваць яго і ўсю сядзібу Тадэвуша Касцюшкі. На гэты конт прынята станоўчае рашэнне Брэсцкага аблвыканкама. Але з'явілася нечаканая складанасць: зямля парку з'яўляецца часткова ўласнасцю дзяржавы, часткова калгаса, выканкама. Таму вырашэнне пытання замарудзіцца.

Дзяржава зацікаўлена, каб да рэстаўрацыі архітэктурных каштоўнасцей далучаліся прадпрыемствы ўсіх форм уласнасці. Відавочна, што дзяржбюджэт не можа справіцца з усімі праблемамі. Закон прадугледжвае, што прадпрыемства можа не заплаціць у бюджэт тры працэнты сваіх падаткаў на прыбытак, калі ўнясе суму, эквівалентную гэтай, на рэстаўрацыю аб'ектаў архітэктуры ў якасці спонсарскай дапамогі. Але афармленне падатковых дэкларацый такое складанае, што ў рэшце рэшт вытворцы адмаўляюцца ад дабрачыннасці. Дзмітрый Бубноўскі паведаміў, што ў хуткім часе павінен адбыцца прэзідэнт укладу сродкаў у якасці ахвяраванняў на рэстаўрацыю Спасаўскага сабора Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра ў Полацку. Калі ў нашай краіне з'явіцца значная колькасць заможных людзей, магчыма, ахвяраваць на культуру стане прэстыжней, чым на нешта іншае.

**Алена СПАСЮК.**

ЛАЗЕРНЫ «ПАТРУЛЬ»



Дакладны кантроль чысціні атмасферы беларускай сталіцы з нядаўняга часу вядуць вучоныя-фізікі Нацыянальнай акадэміі навук. У цэнтры Мінска ўстаноўлена спецыяльная станцыя, на якой з дапамогаю лазернага прамення праводзіцца лазернае зандзіраванне атмасферы. Лазерны прамень "патрулюе" тэрыторыю Мінска ў радыусе 35 кіламетраў. Створана гэтае унікальнае абсталяванне спецыялістамі лабараторыі оптыкі рассейваючых асяроддзяў Інстытута фізікі імя Б. І. Сцяпанава.

НА ЗДЫМКУ: кіраўнік групы лазернага зандзіравання атмасферы Анатоль ЧАЙКОЎСКІ праводзіць настройку лазернай станцыі перад пачаткам працы.

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ.**

ТВОРЧЫЯ СУСТРЭЧЫ З Інай СНАРСКАЙ У МІНСКУ

# «ГАРЫ, ГАРЫ, МОЙ ТАНЕЦ НА ВУГЛЯХ...»

АД РЭДАКЦЫІ

**Пра тое, што меркаваўся прыезд Іны Снарскай на Беларусь, чытачы "Голасу Радзімы" ведалі з рубрыкі "З пошты Яўгена Лецкі". І ён адбыўся.**

**Менавіта Яўген Лецка зрабіў належнае, каб забяспечыць сумоўнасць паэткі са сваімі чытачамі-слухачамі. Такіх сустрэч на працягу пяці дзён было каля дзесяці. Пачаліся ж яны ў Беларускім дзяржаўным тэхналагічным універсітэце.**

**Выступала Іна таксама перад студэнтамі і выкладчыкамі Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэта, дзе прачулае слова пра яе творчасць сказаў вядомы крытык, драматург і празаік, загадчык кафедры роднай мовы і літаратуры Пятро Васючэнка.**

**А на філфаку Белдзяржуніверсітэта Іну вітаў доктар навук, загадчык кафедры тэорыі літаратуры, даследчык украінска-беларускага пабрацімства Вячаслаў Рагойша. Асабліва зацікаўленыя слухачы былі сярод выпускнікоў сёлетняга курса ўкраіністаў.**

**Знаходжанне Іны Снарскай на Беларусі завяршылася ўрачыстай вечарынай у Саюзе беларускіх кампазітараў.**

УРАЖАННІ

Маё знаёмства з паэтэсай Інай Снарскай адбылося на журфаку БДУ. Яно вельмі ўразіла. Прадстаўляў яе намеснік старшыні Саюза пісьменнікаў паэт Навум Гальпяровіч. Тыя, хто запоўніў залу, убачылі натхнёны, крыху ўсхваляваны твар і позірк вялікіх вачэй, здольных, здавалася, зазірнуць у самую глыбіню чалавечай душы.

Родны горад Іны Снарскай — Полацк.Цяпер жыве ў Палтаве. А Беларусь захавалася ў снах, у душы і ў вершах.

"Я чую іх па-беларуску, — кажа яна. — Вершы не ведаюць межаў і часу, іх радзіма — неба". Бясконцы прастор нябеснай вышыні і нястрымная ў сваім палёце птушка — вобразы, што займаюць адно з асноўных месцаў у паэзіі Іны Снарскай.

Іна Снарская прафесійна займаецца тэлежурналістыкай, яна — член Саюза пісьменнікаў Беларусі.



Тое, што стварае Іна Снарская, захоўвае светлую энергетыку яе душы. "Гары, гары, мой танец на вуглях", — так пачынаецца адзін з яе вершаў. "Танец на вуглях" — жыццё Іны, наша жыццё, якое часам так балюча раніць і абпальвае, імклівa некуды бяжыць, нават не даючы магчымасці азірнуцца, спыніцца, падумаць: для чаго ўсё... Але яно дорыць нам каханне і хвіліны шчасця, у кожнага розныя і ў розны час...

**Таццяна ІВАНЮК, студэнтка БДУ.**

НА ЗДЫМКУ: фрагмент спаткання ў Саюзе беларускіх кампазітараў. Скрыпачка з Вілейкі пераклала настрой вершаў І. СНАРСКАЙ на мову гукаў.

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

АПК

# БЕЗ СПАСЫЛАК НА СТЫХІЮ

**У Нацыянальным прэс-цэнтры прайшла прэс-канферэнцыя, прысвечаная пытанням аграрна-прамысловага комплексу. Удзельнічаў у ёй віцэ-прэм'ер Аляксандр ПАПКОЎ.**

Ён адразу падкрэсліў, што, нягледзячы на вельмі цяжкія наступствы стыхіі і песімістычныя прагнозы, харчовага краху не адбылося. Дзякуючы сур'ёзнай працы ў аграрна-прамысловым комплексе, на сённяшні дзень створаны трывалыя запасы харчавання, якія перавышаюць паказчыкі за мінулы год. Да таго ж удалося захаваць колькасць пагалоўя жывёлы.

Беларусь, як вядома, з'яўляецца аграрнай краінай, але не можа забяспечыць сябе цалкам прадуктамі харчавання. Больш за адзін мільён тон збожжа завезена з-за мяжы, 500 тысяч тон выдзеліла Чэхія. Аднак, па словах віцэ-прэм'ера, сітуацыя кіруемая, а закупкі зроблены з мэтай падстрахоўкі.

Аляксандр Папкоў выказаў занепакоенасць тым, што на беларускім рынку расійскія прадукты харчавання пачынаюць выцясняць айчынныя. Акрамя хлеба і малака, каштуюць расійскія прадукты танней, ды і па якасці ў большасці сваёй пачалі перавышаць беларускія. Гэта актуальная праблема вырашаецца як першачарговая.

Наконт рэфармавання аграрна-прамысловага комплексу віцэ-прэм'ер адзначыў, што асновай застануцца буйнатаварныя прадпрыемствы, якія мы маем. Ужо ў гэтым годзе мяркуецца стварыць новыя магутныя аб'яднанні для вытворчасці, перапрацоўкі і рэалізацыі прадукцыі.

А. Папкоў назваў арыенціры на 2000 год. Плануецца сабраць у сярэднім 25 цэнтнераў збожжавых з гектара, давесці валавую вытворчасць бульбы да 7 мільёнаў тон, ільновалакна — да 50 тысяч тон, атрымаць 5 мільёнаў тон малака і каля 900—950 тысяч тон мяса. Удасца гэта ці не — пакажа час.

**Павел САМЕЦ.**





Калгас-камбінат "Крыніца" Лунінецкага раёна — найбуйнейшая агароднiцкая гаспадарка Брэсцкай вобласці. Тут 5,6 гектара занята пад зімовыя цяпліцы, 84 гектары — адкрыты грунт. У мінулым годзе на іх вырашчана і рэалізавана дзве з паловай тысячы тон агароднiны, з якіх 640 тон атрымана ў закрытым грунце. Рэнтабельнасць адпаведна склала 55 і 61,9 працэнта. Агароднікі цесна супрацоўнічаюць з Беларускім НДІ агародніцтва. З дапамогаю вучоных у гэтым годзе яны думаюць вырабіць прадукцыі на 10 працэнтаў больш.

НА ЗДЫМКАХ: вялікая цяплічная гаспадарка радуе сваёй прадукцыяй ужо дваццаць пяць гадоў; на ўчастку таматаў працуюць цяплічніцы Ева КАНАПАЦКАЯ і Ніна РАШНЯК.

**Фота Рамана КАБЯКА.**

БЕЛАРУСЬ — ЛАТВІЯ

# БІРЖА КАНТАКТАЎ У РЫЗЕ

У час нядаўна праведзеных Дзён эканомікі Рэспублікі Беларусь у Латвійскай Рэспубліцы ў Рызе працавала біржа кантактаў паміж прадстаўнікамі дзелавых колаў дзвюх краін.

Яе падрыхтавалі Мінгарвыканкам і Мінскае аддзяленне Беларускай гандлёва-прамысловай палаты, якія, дарэчы, увосень правялі падобнае мерапрыемства ў сталіцы Беларусі ў час Дзён Латвіі ў Мінску. Як паведаміў кіраўнік спраў Мінскага аддзялення Беларускай гандлёва-прамысловай палаты Пётр Юшкевіч, на сустрэчу з латвійскімі калегамі ў Рыгу прыехалі кіраўнікі і спецыялісты 23 беларускіх прадпрыемстваў розных галін прамысловасці, будаўніцтва, гандлю, а таксама банкаў, страхавых кампаній, СЭЗ "Мінск".

Яны сустрэліся з прадстаўнікамі 41 прадпрыемства і арганізацыі Латвіі, у тым ліку Міністэрства шляхоў зносін гэтай краіны, упраўлення партоў Рыгі, Лепаі, Вентспілса, Латвійскай чыгункі, "Балтыйскага транзітнага банка" і "Парэкс-банка". У выніку сустрэч і перагавораў дасягнуты дамоўленасці пра заключэнне 22 кантрактаў і падпісана 42 пратаколы пра намер супрацоўніцтва.

Дасягнуты пагадненні аб кантэйнерных перавозках экспартна-імпартных грузаў праз парты Латвіі, страхаванні грузаў і латвійскіх інвестыцый, пастаўцы прадукцыі. Напрыклад, "Тарговы дом "На Нямізе" дамовіўся з латвійскім прадпрыемствам "Дзінтарс" аб пастаўцы парфюмерна-касметычнай прадукцыі.

**Міхаіл ВАЛЬКОЎСКІ.**
("Рэспубліка").



ГАСЦЁЎНЯ

# «КАСМІЧНЫ АРХІЎ» АВІЛАВА

*150 гадоў назад у газеце "Маскоўскія навіны" было апублікавана паведамленне, што тverскі мешчанін Нікіфар Нікіцін за крамольныя размовы пра палёты на Месяц сасланы ў вёску Байканур на вечнае пасяленне.*

*Знамянальна: на месцы менавіта гэтага стэпавага пасялення пачалося будаўніцтва універсальнага комплексу — касмадрома Байканур.*

*Такія цікавыя факты паведаміў мне падпалкоўнік запасу, мінчанін Валянцін АВІЛАЎ. Ён непасрэдны ўдзельнік падрыхтоўкі і здзяйснення першага старту ракеты-носьбіта "Энергія" і касмічнага карабля шматразовага выкарыстання "Буран", сведка шматлікіх запускаў ракет у космас. За трыццаць гадоў службы на касмадроме Байканур сабраў вялізную калекцыю рэдкіх медалёў, памятных знакаў, макетаў касмічных караблёў, фатаграфій, кніг на касмічную тэму.*

Біяграфія гэтага чалавека багатая, таму што па роду дзейнасці, праходзячы службу апературам па запуску ракет, Валянцін Авілаў быў у цэнтры такіх падзей, як выпрабаванні першых савецкіх міжкантынентальных балістычных ракет, запускі звышцяжкіх ракет па "месяцавай праграме" С. Каралёва і іншых. Яго паплечнікі — легендарныя касманаўты і проста захопленыя людзі, якія не ўяўляюць сваё жыццё без касмадрома.

Адразу пасля заканчэння Камышынскага артылерыйскага вучылішча Валянціна Авілава па размеркаванню накіравалі на Байканур. У той час, а гэта быў 1965 год, тут ішоў эксперымент з трайным запускам, гэта значыць, выпрабаванні праводзілі з прамежкам у 5 хвілін адразу на трох шахтах. Пуск адной з ракет даверылі Авілаву. І так атрымалася, што, праляцеўшы каля чатырох кіламетраў, менавіта яго ракета адхілілася ад курсу і ўзарвалася. Супрацоўнікі яшчэ доўга потым кпілі з маладога лейтэнанта: "Авілаў, відаць, крыва кнопку націснуў". Пасля гэтага ім было запушчана 28 ракет шахтавага варыянта. Паспяховыя выпрабаванні сталі залогам таго, што падобныя ракеты ставілі на баявое дзяжурства па ўсім былым Саюзе.

У 1967 годзе маладога афіцэра "перакінулі" ў падраздзяленне "Комплексу-1", які займаўся "месяцавай праграмай". Рыхтавалася цяжкая ракета для запуску на Месяц і далейшых міжпланетных падарожжаў. Усе чатыры запускі аказаліся няўдалымі... Касмадром Байканур пастаянна мадэрнізаваўся і ўдасканальваўся. На працягу васьмі наступных гадоў праходзілі выпрабаванні комплексу "Саюз—Апалон", а затым пачалося будаўніцтва аэрадрома для прызямлення касмічнага карабля "Буран". 1/4 усяго бетону, які выпускаўся ў той час у СССР, ішла на падрыхтоўку пасадачнай бетоннай паласы працягласцю 4,5 кіламетра і шырынёй 90 метраў. Адбыўся толькі адзін запуск "Бурана", і, на жаль, з-за недахопу сродкаў праграму закрылі. Хаця, як лічаць выпрабавальнікі, канструктары і іншыя спецыялісты касмадрома, "Буран" ні ў чым не саступае амерыканскаму "Шатлу". Ён можа рабіць некалькі віткоў вакол Зямлі, здымаць спадарожнікі з арбіт, выкідваць з карабля спадарожнікі без запуску ракеты, счытваць інфармацыю... А калі з караблём здарыцца аварыя, то з дапамогаю "Бурана" касманаўтаў можна будзе выратаваць. Тыя, хто прымаў удзел у гэтым праекце, па-ранейшаму вераць у яго вялікую будучыню. Дзень запуску "Энергіі" — ракеты, якая выводзіла "Буран" на арбіту, адзначаецца работнікамі Байканура як свята. Валянцін Авілаў у 1997 годзе ездзіў на касмадром на сустрэчу, прысвечаную дзесяцігоддзю запуску "Бурана".

Ветэраны касмадрома, сабраўшыся з такой нагоды, згадвалі шмат цікавых гісторый. Успомнілі яны і выпадак, сведкам якога быў Авілаў. Байканур раней любілі наведваць знакамітыя госці. Адночны на камандны пункт прыехаў першы сакратар ЦК КПСС Мікіта Хрушчоў з прэм'ер-міністрам Францыі Шарлем дэ Голем, каб прысутнічаць пры запуску ракеты. Звычайна да паказальнага запуску рыхтавалі дзве ракеты, даведзеныя да пяцiхвілiннай гатоўнасці: адна — асноўная, другая — на выпадак няўдачы з першай. У той раз усё было дрэнна. Пачалі выводзіць першую ракету, як раптам за дзве хвіліны набору гатоўнасці выйшаў са строю ўзмацняльнік пертаваральніка на борце. У выніку адбыўся аўтаматычны адбой запуску. Перайшлі на запасную ракету, пачалі набор, пайшла падача сцісьутага паветра, і раптам за адну хвіліну да запуску гаснуць транспаранты кантролю ціску. Выпрабавальнікамі апанаваў жах: яшчэ раз можа адбыцца аўтаматычная каманда "адбой". Вырашылі падключыць увесь сціснуты газ паралельна і з рызыкай для сябе даць каманду да запуску. Пасля гэтага ракета нейкія долі секунды набірала цягу і паступова ўжо пачала выходзіць з шахты. У той жа час з каманднага пункта паступіла каманда "пуск". Толькі паспеў Хрушчоў даць каманду "пуск", як ракета тут жа "выскоквае" з шахты. Дэ Голь быў так уражаны, што вымавіў: "Калласальна!" А апамятаўшыся, спытаў: "І шмат у вас такіх ракет?" На што Хрушчоў адказаў: "Дастаткова, каб накрыць усе краіны НАТО". Вярнуўшыся ў Парыж, дэ Голь прыняў рашэнне вывесці сваю краіну з ваеннай арганізацыі НАТО, пераехаў і штаб НАТО са сталіцы Францыі.

За 30 гадоў службы падпалкоўніка Авілава неаднаразова прадстаўлялі да ўзнагарод, якія з'яўляюцца не толькі часткаю яго калекцыі, але і сведчаннем дастойнай службы на карысць чалавецтва і ў імя асваення космасу.

Сёння яго калекцыя — адзіны ў сваім родзе "касмічны архіў" СССР — уключае ў сябе звыш дзвюх тысяч экспанатаў. Маецца і каталог, згодна з якім тут сабраны ўсе значкі пра Байканур, выпушчаныя ў розныя гады. Сюды ўваходзяць ветэранскія і юбілейныя знакі, значкі, якія адсочваюць развіццё касмічнай эры. Карацей кажучы, у калекцыі Авілава ёсць усе ўзнагародныя знакі, выпушчаныя Федэрацыяй касманаўтыкі.

А размясцілася унікальная калекцыя ў невялікім пакоі, які ўступіў аддзел аптычных праблем інфарматыкі Нацыянальнай акадэміі навук Рэспублікі Беларусь. Сёння Авілаў праводзіць тут экскурсіі. Расказвае пра Гагарына і іншых касманаўтаў, пра запуск ракет "Саюз — Апалон" і "Энергія—Буран", дэманструе макеты ракетных установак, паказвае багатыя фотаархівы. Увагу экскурсантаў прыцягваюць розныя памятныя медалі. На адным з іх, вырабленым з металу носьбіта ракеты "Энергія", ёсць надпіс на адваротным баку: "Заваяваць Сусвет для шчасця чалавецтва. Заваяваць прастору і энергію Сонца". Ёсць у калекцыі і сапраўдная рэліквія — штурвал з касмічнага карабля, на якім здзейсніў палёт наш зямляк Пётр Клімук.

**Сняжана МІХАЙЛОЎСКАЯ.**

ЖЫЦЦЁВЫЯ СЮЖЭТЫ

# ЯК СПРАВЫ, ДЗІМА?

Я ехаў адпачываць на Палессе, у сваю родную вёску. З Маладзечна дабраўся да Мазыра і спыніўся на аўтавакзале, каб потым перасесці на лельчыцкі аўтобус. Похапкам накупляў пляменнікам цукерак, набыў у касе білет, сеў на лаўку. І не заўважыў, як да мяне падселі двое — маладая жанчына і хлопчык. "Маці і сын", — зразумеў я. Жанчына прытульвала малога да сябе, ласкава гладзіла па галоўцы:

— Хутка, Дзімка, будзем дома. Там нас сустрэне бабуля.

— Ага, — выдыхнуў нейкім старэчым голасам хлопчык.

На яго я і звярнуў увагу. На выгляд хлопчыку было гадоў дзесяць—адзінаццаць. Апрануты ў цёплую блакітную курточку, абуты ў кеды, на галаве спартыўная кроію шапачка-пеўнік. Асабліва кінулася ў вочы, што шыя хлопчыка была абвязана марляю.

— Прастудзіўся? — спытаў я ў жанчыны.

— Дзе там! — махнула яна рукою. — Шчытавідка. Трэці ўжо год кволіцца на горла. Куды яго толькі ні вазіла, дзе толькі ні лячыла — нічога не дапамагае. Вось і зараз з Гомеля едзем. Два месяцы ляжаў там у анкалогіі. Цяпер дамоў едзем, у Ельск. Трохі пабудзем дома і зноў — у бальніцу. Вось што нарабіла нам радыяцыя.

Адказала спакойна, нібы паведаміла пра будзённую справу: звыклася, няйначай, за гэтыя тры гады са сваім горам (хоць у яе голасе адчувалісця трывога і адчай за здароўе сына).

І зноў пачала шкадаваць, прытульваць да сябе сына:

— Бабулька, Дзіма, нас чакае. Гасцінцаў табе падрыхтавала.

Хлопчык маўчаў. Яму, разумеў я, цяжка было гаварыць, бо балела горла.

— Цяпер часта возяць чарнобыльскіх дзяцей на аздараўленне за мяжу. Адправілі б і вы туды свайго Дзімку, — параіў я жанчыне.

Параіў і тут жа зразумеў, што сказаў нешта не тое, балюча закрануў сэрца маці, бо голас жанчыны задрыжаў:

— Яго лячыць трэба, а не аздараўляць! Апярацыю трэба рабіць за мяжою. А дзе я тыя грошы вазьму на гэта? Калгасніца ж я. І ўжо трэці год не раблю. Усё па бальніцах з сынам езджу.

Я зірнуў на маці Дзімкі — тая ўжо плакала, выціраючы хусцінкаю слёзы.

— Не плач, мама, — вырваўся раптам хрыплы голас з грудзей хлопчыка. — Не трэба мне тая аперацыя. Я так папраўлюся.

Цяпер ужо сын шкадаваў і суцяшаў маці, гладзіў яе руку, што ляжала ў яго на каленях.

Сэрца маё балюча сціснулася. І я, разгублены, каб неяк суцешыць сына і маці, сунуць іх гора, палез у сваю сумку, выняў з яе кулёк цукерак і працягнуў хлопчыку:

— Вазьмі, Дзімка!

Ён зірнуў мне ў вочы ўдзячным позіркам, але цукерак чамусьці не браў — сароме́ўся.

— Бяры, бяры. У мяне іх багата. Поўная сумка.

Ён нясмела працягнуў руку, узяў кулёк з цукеркамі і запіхнуў яго ў кішэню курткі:

— Сам есці не буду. Бабулі завязу, хай смокча.

Нарэшце мне пара было ехаць на Лельчыцы. Я развітаўся з Дзімкам і яго маці, палез у дзверы аўтобуса. Заняў у салоне сваё месца, зірнуў у адчыненае акно. Дзімка стаяў каля аўтобуса, глядзеў на мяне і памахваў рукою — развітваўся.

З таго часу мінула некалькі гадоў, і цяпер, калі прыгадваю сваё Палессе, кожны раз думаю пра хворага хлопчыка, з якім развітаўся на Мазырскім аўтавакзале. Дзе ты цяпер, Дзімка? Няўжо зноў у бальніцы?

**Мікола КРЫЛОВІЧ.**

ЗДАРЭННІ

**У ПОЛАЦКУ ЭКСКАВАТАР АДКАПАЎ СКЛАД БОЕПРЫПАСАЎ.** Сапёраў на месца здарэння выклікалі спачатку ў сувязі з адзінкавай знаходкай. Экскаватаршчык, які выконваў земляныя работы на газавых сетках, наткнуўся на фаустпатрон. Аднак групе размініравання прыйшлося затрымацца: выявіўся склад нямецкіх боеприпасаў часоў Вялікай Айчыннай вайны. За два тыдні сапёры вывезлі за горад і ліквідавалі 350 выбухованебяспечных прадметаў. Гэта толькі з аднаго бліндажа, а трэба ачысціць яшчэ два.

**ЗНЕСЛА ДАХ...** Моцны вецер, хуткасць якога дасягала 20 метраў у секунду, нарабіў бяды ў Дзятлаве: з прадуктовага магазіна, які належыць санаторыю "Радон", сарвала дах плошчай 300 квадратных метраў. Лісты даху ветрам раскідала на адлегласць 50 метраў.

Стыхія лютавала каля дзесяці хвілін. Калі не лічыць трох легкавых аўтамабіляў, якія былі пашкоджаны лістамі і чарапіцай з даху, то ўсё абышлося без ахвяр.



# СЮРПРЫЗЫ "ЗАЛАТОГА ЛОКАНА"

Другі раз у Брэсце прайшоў конкурс цырульнікаў-аматараў "Залаты локан", арганізаваны брэсцкім клубам "Арыенцір". З 53 удзельнікаў вызначаны пераможцы па сямі намінацыях, у асноўным гэта навучэнцы школ і прафтэхвучылішчаў, студэнты ВНУ.

НА ЗДЫМКУ: "Міс Нечаканасць" — будучы цырульнік Юлія РАНЕЦКАЯ. Яе сукенка з пўных і кансервавых накрывак і незвычайная прычоска зрабілі сапраўдны фурор. Дарэчы, для стварэння сукенкі спатрэбілася тры месяцы.

**Фота Рамана КАБЯКА.**

АЛІМПІЙСКАЯ ХРОНІКА

Упершыню ў гісторыі эстафета Алімпійскага агню загляне пад ваду. 27 чэрвеня марскі біёлаг Уэндзі-Крэйг Данкан нырне з факелам і праплыве некаторы час уздоўж вялікага бар'ернага рыфа. Полымя спецыяльным чынам будзе нагрэта да тэмпературы 2 000 градусаў, што дазволіць яму здзейсніць трох-чатырохвхвілінае падарожжа пад вадою.

***

Кожны аўтамабіль, які заедзе на тэрыторыю алімпійскіх аб'ектаў Сіднэя ў час Гульняў-2000, будзе дагледзены пры дапамозе спецыяльна натрэніраваных сабак. Усяго ў службе алімпійскай бяспекі будзе задзейнічана 35 тысяч чалавек.

**Каця МАЗАКОВА.**



Галоўным трэнерам зборнай Індыі па цяжкай атлетыцы стаў алімпійскі чэмпіён, неаднаразовы чэмпіён СССР, наш зямляк Леанід Тараненка. Ён рыхтуе цяжкаатлетаў да Алімпіяды ў Сіднэі.

НА ЗДЫМКУ: Леанід ТАРАНЕНКА.

**Фота з архіваў БелТА.**

## НАВІНЫ З ВІЛЕНШЧЫНЫ

### СПРАВАЗДАЧНА-ВЫБАРНЫ З'ЕЗД ЗГУРТАВАННЯ БЕЛАРУСКІХ ГРАМАДСКІХ АРГАНІЗАЦЫЙ (ЗБГА)

На пасаду прэзідэнта згуртавання абраны Лявон Мурашка, які і раней кіраваў ЗБГА. Абраны таксама рада, рэвізійная камісія, управа. Ва ўправу ўвайшлі: Р. Вайніцкі, Д. Базар, Т. Блажкевіч, А. Тарасевіч. У згуртаванні цяпер 10 суполак і 3 філіі. На з'ездзе вялася гаворка пра лёс Беларускай школы імя Ф. Скарыны, пра далейшае аб'яднанне беларускіх суполак Літвы вакол ЗБГА, пра стварэнне музея Якуба Коласа і аднаўленне музея імя І. Луцкевіча, пра маладзёжную беларускую арганізацыю, пра асветніцка-культурны цэнтр. Распрацаваны і прыняты план мерапрыемстваў ЗБГА.

### СПРАВАЗДАЧНА-ВЫБАРНЫ СХОД ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ (ТБК)

На пасаду старшыні таварыства абраны Хведар Нюнька, ранейшы старшыня ТБК. Абраныя таксама рада і рэвізійная камісія.

У раду ўвайшлі: М. Іголка, Л. Мілаш, А. Старавойтаў, А. Трусаў, С. Карабач, П. Саўчанка, В. Саковіч, В. Місюк. У сваім справаздачным дакладзе Хведар Нюнька пералічыў дасягненні таварыства за апошнія тры гады дзейнасці, а таксама закрануў сённяшняе жыццё на Беларусі. Узгоднены мерапрыемствы ТБК на больш шырокую перспектыву з разлікам на будучыню. Леакадзія Мілаш здала ў выдавецтва кнігу пра дзейнасць ТБК, якая хутка павінна выйсці ў Вільні.

### ДЗЕНЬ СВЯТОГА ФРАНЦІШКА

У касцёле Святога Барталамея адбылося набажэнства за Францішка Скарыну і Францішка Багушэвіча, якім сёлета спаўняецца адпаведна 510 і 160 гадоў з дня нараджэння. У Рукойнах Віленскага раёна таксама адбылася імша за Ф. Багушэвіча — у касцёле, дзе яго хрысцілі. У Лаварышках адна з вуліц ужо носіць імя Ф. Скарыны, а ў Рукойнах — Ф. Багушэвіча. І ў гэтым немалая заслуга сяброў ТБМ Віленскага раёна. Цяпер робяцца захады, каб устанавіць мемарыяльную дошку ў гонар Ф. Багушэвіча на панадворку касцёла ў Рукойнах.

**Падрыхтаваў Віктар ЯГОРЧАНКА.**

## МАСТАЦТВА БЕЗ МЕЖАЎ

**У Мінску, у музеі сучаснага выяўленчага мастацтва, адбылося прадстаўленне мастацкай акцыі "Іспанская партыя".**

Яе ўдзельнікі — беларускія мастакі Руслан Вашкевіч, Міхаіл Нацэўскі, Артур Клінаў, Фёдар Драгун, Аляксандр Пушкін і Аляксей Шаліма. Экспазіцыя аб'ядноўвае разнастайныя варыянты асэнсавання "іспанскай тэмы", якія грунтуюцца на ўплыве вялікіх іспанцаў Эль Грэка, Веласкеса, Гоі, Пікасо і іншых. Лагічным працягам "іспанскай тэмы" было і выступленне акцёраў Беларускага акадэмічнага тэатра імя Я. Коласа, якія паказалі "Сны Андалузіі" — фрагмент п'есы "Ерма" паэта Гарсія Лоркі.

НА ЗДЫМКАХ: "Сны Андалузіі" ў выкананні віцебскіх акцёраў; Руслан ВАШКЕВІЧ. "Дзяўчынка на шары наадварот"; фрагмент экспазіцыі.

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БелТА.**

## ЗАМЕЖЖА

# БЕЛАРУСКАЯ МЕНШАСЦЬ У ПОЛЬШЧЫ

**HENRYK CHALUPCZAK, TOMASZ BROWAREK. MIENSZOŚCI NARODOWE W POLSCE. 1918—1995. LUBLIN, 1998.**

● **Ларыса ЯЗЫКОВІЧ,** *кандыдат гістарычных навук.*

У ПОЛЬШЧЫ ў выдавецтве Люблінскага універсітэта імя М. Складоўскай-Кюры пабачыла свет кніга Генрыха Халупчака і Томаша Бравартэка "Нацыянальныя меншасці ў Польшчы. 1918—1995". На падставе шырокага кола крыніц аўтары даследуюць складанае пытанне, якое з'яўляецца зараз вельмі актуальным не толькі для Польшчы, але і для многіх краін свету. Кніга мае ўступ, заключэнне, асноўны матэрыял згрупіраваны ў 11 раздзелах. У канцы кожнага раздзела падсумоўваюцца галоўныя высновы аўтараў, даецца бібліяграфія вывучаемага пытання. Раздзелы працы прысвечаны такім праблемам, як колькасць і рассяленне нацыянальных меншасцей у межах Польшчы, іх прававы статус, палітыка польскіх дзяржаўных улад у адносінах да нацыянальных меншасцей, удзел нацыянальных меншасцей у выбарах і рабоце польскага парламента. Асобныя раздзелы адлюстроўваюць становішча такіх нацыянальных груп, як украінцы, беларусы, немцы, яўрэі, літоўцы і некаторыя іншыя. Ва ўступе аўтары падкрэсліваюць, што праблема існавання нацыянальных меншасцей вельмі складаная, а ў многіх адносінах і дыскусійная. Сучасная Еўропа, па некаторых даных, уключае каля 270 этнічных груп. У межах польскай дзяржавы пражываюць прадстаўнікі 14 нацыянальных і этнічных меншасцей.

Згодна з польскай канстытуцыяй і законам "Аб правах асоб, якія належаць да нацыянальных і этнічных меншасцей", паняцце "нацыянальная меншасць "аднесена да груп, што атаясамліваюць сябе з народамі, арганізаванымі ва ўласныя дзяржавы (беларусы, чэхі, грэкі, літоўцы, немцы, армяне, рускія, славакі, украінцы і іншыя). Да этнічных меншасцей залічаны так званыя бездзяржаўныя народы (караімы, цыганы, татары і лемкі).

Даследчыкі, якія вывучаюць нацыянальнае пытанне, у тым ліку і пытанне аб нацыянальных меншасцях, заўсёды сустракаюцца са шматлікімі складанасцямі, звязанымі з недахопам дакладных даных, заніжэннем ці завышэннем фактычнай колькасці асоб, што належаць да нацыянальнай меншасці, маніпуліраваннем крытэрыямі нацыянальнай прыналежнасці, недобрасумленнымі метадамі складання спісаў і збірання інфармацыі. Увогуле не існуе аб'ектыўных крытэрыяў дакладнасці дэкларацый аб нацыянальнай прыналежнасці. Часта тая ж самая асоба, але пры новых абставінах можа залічыць сябе да іншай нацыянальнасці. Стан нацыянальнай свядомасці асобы вынікае не толькі з паходжання і выхавання ў рэчышчы пэўнай культуры, але і з палітычных і эканамічных абставін. Аўтары падкрэсліваюць, што статыстыка, якая датычыць колькасці нацыянальных меншасцей у Польшчы, у тым ліку і апрацаваная на падставе вынікаў перапісаў насельніцтва, з'яўляецца вельмі прыблізнай. У міжваенныя гады ў Польшчы праводзіліся 2 перапісы насельніцтва. Першы ад 30 верасня 1921 года не ўключаў усю тэрыторыю дзяржавы. З-за фінансавых прычын яго вынікі засталіся неапрацаванымі. Другі перапіс насельніцтва ад 9 снежня 1931 года ахапіў усю тэрыторыю Польшчы і ўключаў пытанне пра родную мову. У перапісным лісце пералічваліся мовы: польская, украінская, руская, яўрэйская, чэшская ці іншая. Перапіс 1931 года быў у значнай ступені запалітызаваны, здараліся выпадкі ўпісвання польскай мовы замест украінскай ці беларускай. Па некаторых гмінах статыстычныя звесткі ўвогуле не публікаваліся. Па выніках гэтага перапісу ў адным Палескім ваяводстве знайшлося 700 тысяч асоб, мова якіх была вызначана як "тутэйшая". У гэтай групе знаходзіліся тыя, хто не здолеў выбраць сваю мову сярод польскай, беларускай, украінскай і іншых. Пасля другой сусветнай вайны толькі першы ўсеагульны перапіс ад 14 лютага 1946 года ўключаў пытанне пра нацыянальнасць. Яго даныя, на думку аўтараў, былі таксама далёкія ад рэчаіснасці. Ён адбываўся ва ўмовах інтэнсіўных міграцыйных рухаў, пры гэтым шмат людзей не выяўляла сваёй сапраўднай нацыянальнасці і выдавала сябе за палякаў.

Паводле перапісу 1931 года, у Польшчы было прыкладна 32 мільёны грамадзян, з якіх каля 22 мільёнаў (68,9 працэнта насельніцтва) складалі палякі. Па моўным крытэрыі нацыянальнымі меншасцямі лічыліся 9 923 тысячы асоб (31,1 працэнта), у тым ліку ўкраінцаў — 13,9 працэнта, яўрэяў 8,6 працэнта, беларусаў 3,1 працэнта, немцаў 2,3 працэнта, рускіх 0,4 працэнта, літоўцаў 83 тысячы, чэхаў 38 тысяч, 707 тысяч чалавек вызначаны як тутэйшыя і 11 тысяч як іншыя. У перапісе 1931 года была завышана колькасць палякаў, таму розныя даследчыкі (Е. Тамашэўскі, Я. Жарноўскі і іншыя) уносяць свае ўдакладненні ў вынікі перапісу, павялічваючы колькасць асоб, якія адносяцца да нацыянальных меншасцей. Аўтары данага даследавання на падставе аналізу шырокага кола літаратуры вызначаюць колькасць асоб нацыянальных меншасцей у 11,2 мільёна чалавек (35,1 працэнта ад усяго насельніцтва).

Па колькасці найбольшую групу пасля палякаў складалі ўкраінцы. На другім месцы былі яўрэі. Трэція — беларусы. Па розных меркаваннях, іх было ад 990 тысяч да двух мільёнаў чалавек. Найбольш беларусаў жыло ў Палескім ваяводстве — 43,5 працэнта насельніцтва, Навагрудскім — 39,1 працэнта, Віленскім — 22,7 і Беластоцкім — 16,3 працэнта.

Па заканчэнні перасяленняў і міграцый у сярэдзіне 1950-х гадоў, калі лічба насельніцтва Польшчы дасягнула 27 мільёнаў, нацыянальныя меншасці налічвалі каля 650 тысяч асоб (прыкладна 2,4 працэнта ад усяго насельніцтва). З іх 148 тысяч беларусаў.

На падставе аналізу розных крыніц аўтары даследавання лічаць, што ў сярэдзіне 1990-х гадоў у Польшчы з 38,6 мільёна чалавек насельніцтва нацыянальныя меншасці складалі каля аднаго мільёна.

У міжваенны перыяд сярод беларусаў дамінавалі сяляне. З кожных 20 беларусаў 19 працавалі на зямлі. Была невялікая група буржуазіі, колькасць рабочых — 20 тысяч чалавек. Сціплую групу складала інтэлігенцыя.

Пасля другой сусветнай вайны істотных змен у стане беларусаў не адбывалася да канца 1940-х гадоў, калі з'явілася магчымасць заробку і ўладкавання ў гарадах. Для тых, хто пакідаў свае гістарычныя сядзібы, магчымасць найлепшага ўладкавання найчасцей знаходзілася ў рэчышчы асіміляцыі, якая не закранала толькі рэлігійнай сферы. Аналізуючы палітычнае жыццё беларусаў у Польшчы ў міжваенны перыяд, аўтары вылучаюць 6 яго галоўных напрамкаў: сацыялістычны, хрысціянска-дэмакратычны, камуністычны, народны, прапольскі і нацыяналістычны. Яны даюць сціслы аналіз дзейнасці такіх партый, як Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя, Беларуская партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў, Беларуская партыя незалежных сацыялістаў, Беларуская сялянска-работніцкая грамада, Беларуская хрысціянская дэмакратыя, Беларуская сялянская партыя, Цэнтральны саюз культурных і гаспадарчых арганізацый, Беларуская нацыянальна-сацыялістычная партыя, Камуністычная партыя Заходняй Беларусі і іншыя.

Пасля заканчэння другой сусветнай вайны польскія ўлады не давалі згоды на існаванне ў краіне беларускага нацыянальнага жыцця. Першая легальная беларуская арганізацыя — Беларускае грамадска-культурнае таварыства ўтварылася ў 1956 годзе на хвалі агульных палітычных перамен. Мэтамі арганізацыі вызначалася развіццё беларускай асветы і культуры, нацыянальнай самасвядомасці беларусаў, умацаванне братэрства з польскім народам, папулярызацыя ведаў пра СССР і БССР, удзел беларусаў у сацыялістычным будаўніцтве, ахова помнікаў гісторыі і культуры. БГКТ стварала фальклорныя ансамблі, клубы, чытальні, бібліятэкі, арганізоўвала выставы, лекцыі і г. д. Пачаў выходзіць існуючы і ў наш час беларускі штотыднёвік у Польшчы "Ніва". Першыя аддзелы таварыства ўзніклі ў Беластоку, Бельску Падляскім, Гданьску, Гайнаўцы, Сямяцічах і Варшаве. На пачатку 1960-х БГКТ налічвала каля 3,4 тысячы членаў, аб'яднаных у 8 павятовых аддзелаў і 140 гурткоў.

**(Працяг будзе).**



## З НІЗКІ АПАВЯДАННЯЎ "НЕПАМЯРКОЎНЫЯ..."

# КАНІКУЛЫ

*"Мы ў жыцці не толькі госці..."*
Т. КЛЯШТОРНЫ.
*"Чалавек — гэта Вам не мумія..."*
В. МАРАКОЎ.

Была позняя раніца. Яны сядзелі ў скляпку Авербаха ўдваіх — Валерый і Тодар. Выпіўшы па кубку піва, узялі яшчэ... Галовы пасля ўчарашняга ўсенароднага свята — гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі пачалі ўжо святлець, і Тодар спытаўся: "Дык ты хоць помніш, што ўчора нагаварыў, калі адыходзілі?.."

"Ды так, — перабіў яго Валерый, — гаварыў тое, што ёсць... Урэшце ты павінен ведаць... Нехта павінен ведаць... Помніш Дзіму? Ваенны, афіцэр, ладны такі... Цяпер ён далёка... Дык Дзіма зрабіў тое, што абяцаў..."

Валерый агледзеўся па баках, адхінуў полу пінжака, і Тодар убачыў маленькі, амаль з далонь, нібы цацачны пісталет. Паспеў заўважыць на ім манаграму, якая нагадвала перакрэсленую знізу ўверх вялікую літару "N" лацінскага алфавіта...

"Браўнінг", — прашаптаў яму Валерый, і ў Тодара адразу перахапіла дыханне: шэпт яму здаўся крыкам... Ён хацеў штосьці сказаць, але не змог: як быццам нешта ўчапістае схапіла яго за горла... "І за "проста так" "нкусаўцы" чвэрць краіны вынішчылі, а за гэта... За гэта пашкадуеш, што нарадзіўся," — падумаў Тодар...

Валерый убачыў, як анямеў твар сябра, і паспрабаваў таго супакоіць: "Ды не хвалюйся ты так... Акрамя нас, ніхто ж не ведае..."

Тодар не мог апомніцца ад пачутага і ўбачанага, прашаптаў: "Ты звар'яцеў..."

"Ну добра, усё нармальна, — працягваў супакойваць яго Валерый. — У Мінску мяне не будзе, ад'язджаю. Накіроўваюць у Бабруйск настаўнічаць... Але ты павінен запомніць адно: калі мяне не стане, я не знік і не атрымаў "дзесяць гадоў без права перапіскі". Проста я не даўся жывым..."

Валерый павінен быў ісці, але бачыў, што Тодар яшчэ ніяк не можа супакоіцца. Ён падняўся і зноў ціха, але выразна сказаў: "Ты ведай і помні: жывым не даўся... Ты павінен ведаць... Цябе не возьмуць... Вунь якія дыфірамбы табе партыйны Андрэй Салавей пяе: "Бярыце прыклад з Тодара... Тодар ужо перабудаваўся..." Нават забыўся, што ты калісьці сам вышаў з камсамола і потым "хадзіў пад месяцам высокім і яшчэ пад грозным ГПУ..."

Паклаўшы на стол два рублі, Валерый яшчэ раз паглядзеў на сябра і, не спяшаючыся, пайшоў да выхаду...

Больш Тодар яго не бачыў. Але пасля пачутага нават спаць баяўся: раптам у сне штосьці-будзь скажа... І ён усё часцей наведваў скляпок Авербаха... Пасля шасці кубкаў "цёмнага" ён спаў спакойна...

Выходзячы з вагона, Валерый заўважыў чацвярых, што стаялі разам, але, як шматгаловы змей, глядзелі ў розныя бакі. Ён пазнаў іх адразу, хаця да гэтага ніколі не бачыў. Пасажыры — дарослыя, падлеткі, жанчыны з дзецьмі — бегалі па пероне, спяшаліся, шумелі, штурхаліся... Канікулы!.. Але гэтую чацвёрку ніхто ні разу не зачапіў, нават не дакрануўся. Як быццам вакол іх было нейкае непрабівальнае магнітнае поле. "Мёртвае поле", — падумаў Валерый...

Яны яго яшчэ не ўбачылі, і ў яго быў шанс зноў вярнуцца ў вагон і паехаць далей... Але, як і тады на следстве, ён пачаў думаць "лагічна"... "Можа гэта і не па маю душу..." Мяне ж нядаўна арыштоўвалі і, разабраўшыся, як яны сказалі, адпусцілі... Навошта зноў арыштоўваць толькі што вызваленага?.."

Логіка і падвяла. Чацвёра ў скуранках чакалі менавіта яго. І прыехалі сюды па яго душу... Калі яго акружылі, рабіць штосьці-будзь было позна. Валерый пашкадаваў толькі, што не ўзяў з сабой пісталет. Ён жа абяцаў Тодару забраць з сабой у магілу як мага больш нелюдзяў. Але гэтыя школьныя канікулы зусім збілі з панталыку яго, настаўніка беларускай мовы і літаратуры, класнага кіраўніка 7 "б" класа школы-інтэрната для дзяцей-сірот горада Бабруйска... Забыўся, расслабіўся з дзецьмі... Думаў: пастукаюць у дзверы, адкрые і, пераканаўшыся, што прыйшлі па яго, пачне страляць... А яны не пастукаліся... Чакалі на вакзале, сярод дзяцей...

Валерый не ведаў, што другая "чацвёрка" цяпер якраз і стукаецца ў яго дзверы... Не ведалі і "нкусаўцы", што калі б "дастукаліся", то напароліся б на кулі...

Не ведаў, нават не дапускаў думкі і сябра Валерыя, ціхі, спакойны Тодар, што праз год яго самога, як "контррэвалюцыянера", расстраляюць там жа, дзе і Валерыя, усяго праз некальні гадзін пасля яго.

Не ведала пра расстрэл Тодара і яго жонка Яніна. Нават у самым страшным сне ёй не прыснілася б, што дзіця, якога яна чакала, народзіцца ў канцлагеры...

Не ведаў і Андрэй-Салавей, што хвалебныя оды бальшавізму не выратуюць ад "всевидящего ока". Арыштуюць яго не як усіх — ноччу і дома. За ім прыйдуць нядзельным ранкам. Знойдуць з сябрамі на рыбалцы. Стоячы па калені ў вадзе, Андрэй перадасць вуду таварышу і скажа: "Мікола, трымай! Праз гадзіну вярнуся..." Пасля гутарак у "амерыканцы" з самім Наседкіным гадзіна расцягнулася спачатку на дзесяць гадоў, потым яшчэ на сем... Не забудуць "наседкінцы" і пра Міколу...

З крытай турмы Андрэй выйдзе толькі пасля смерці чалавека, рэжыму якога ён прысвяціў сотні палымяных радкоў. Невылечна хворы, ён пражыве ўсяго некалькі гадоў пасля вызвалення. Памрэ Андрэй-Салавей далёка ад радзімы. Апошняе, што вырвецца з амаль высушанага сухотамі цела, было тое ж палымянае: "Калі б Ленін быў жывы..."

Не ведаў Андрэй Александровіч, што сам застаўся жывым толькі таму, што Тодар Кляшторны і Валерый Маракоў за год катаванняў у "амерыканцы" так і "не змаглі" ўспомніць яго прозвішча. Ужо на першай літары алфавіта ў паэтаў "адняло" памяць...

**Леанід МАРАКОЎ**

## ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

### АНГЛІЯ

Паважаная рэдактарка!
Не ведаю, ці атрымліваеце вы весткі пра дыяспару тут, у Англіі, і я не дзейнасць. Перасылаю "Belarusian News bulletin" як і "Belarusian Chronicle", можа вас усё гэта зацікавіць. Мы пра сваю Бацькаўшчыну не забываем.

З павагай
**Сільвестар БУДКЕВІЧ.**

**Ад рэдакцыі.** Чытычы — нашы галоўныя карэспандэнты. У дасланай спадаром Будкевічам "Belarusian Chronicle" агульнацікавым падаўся раздзел "Literature and Folklore". Са зменчанымі там матэрыяламі знаёмім аматараў літаратуры і фальклору.

**Towards a new Millenniun**



A wrought iron gateway. Michalyšski (17th c.).





# Belarusian Chronicle

БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА Autumn/Winter 1999 Nos. 9 & 10

### JAPANESE SONG

*(in Tanka form)*

Fragile wondrously,
Scintillating, yellow-hued,
Tinged with azure,
The lovely leaves of autumn
Covered the pathways with silk.

*M. BAHDANOVIČ*
*(1891—1917)*
*Tr. Vera Rich*

### AUTUMN SONG

Let us go, dearest, together,
In the forest so thick,
Silent, because it has now
finihed reigning;
Yellow and naked it grows with
grass waning —
The bushes grow black.

Let us go, love, neath the oak-tree
We shall sit'down, my dear,
There we shall watch the leaves
tumbling and falling,
We shall hear their sad rustle,
the soft murmured calling
Of the stream ringing clear.

We'll be alone in the world
there,
Alone there we two,
Who come at the time of its
agonised passing,
To bid the poor forest a sad
farewell, lasting
Till the spring comes anew.

*Ales HARUN (1887—1920)*
*Tr. Vera Rich*

### A WINTER TALE

A snowy night hangs, a savage
night hangs,
A grey pelt above forests' wild
tresses
In white plumage of snow, in a
white silk of snow,
Valleys, hills under rich snowy
dresses.

In the wild of the woods, the
age-slumbering woods,
Dwell a people, ill-natured,
unspeaking.
In a palace of glass, on a bed all
of glass
Lies a maiden with sun-bright
hair sleeping.

Go you, call her by name; go
you wake her again —
Then tall fir-trees will utter harsh
creaking.
Then the tempest will moan,
then the tempest will groan,
White-eyed winter complain
with loud speaking.

Winter then in alarm, winter
then, fearing harm,
In a frenzy of frost will spin
swirling;
Like a horse without rein, like a
grey-and-white flame,
The blind snowstorm will rush —
rearing, whirling.

And the maid will sigh deep, stir
in heavy dreamed sleep,
With her fingers brush brows
clear of hoar-frost,
She will gaze all around,
unrestrained, all around —
Sad the grey wolves will howl
in the forest.

Go you, rouse her again, — and
the spring comes again,
Over ploughland larks revel
unstinting,
On the river ice cracks, and
away the floes break,
And the playful floods wash out
the winter.

*Zmitrok BIADULA*
*(1886—1941)*
*Tr. Vera Rich*

### ГАЙ

Пачуў ты сэрцам —
і ня ў потай! —
Што між Варшавай і
Масквой —
Ня толькі лапці ды балота...
Тут Беларускіх сьпеваў строй.

Тысячу год гучыць няўпынна,
Тут — даўні Богалюбны
край —
Твой прадзед ці ня чуў:
"Бывай!" —
Ад Беларускае дзяўчыны?

А ты, — здалёку —
адгукнуўся,
І сэрца вернае аддаў
Той, каго продак твой гукаў —
Блакітнавокай Беларусі.

*Алег БЕМБЕЛЬ*
*(Зьніч), 1998.*

***"Гай Пікарда — француз, які жыве ў Ангельшчыне і любіць Беларусь. Прадзед Гая — лейтэнант арміі Банапарта, быў у Менску ды іншых тутэйшых мясьцінах. Будучы студэнтам у Парыжы, Гай сьпяваў у Рускім Праваслаўным хоры Аляксандра Неўскага. Цяпер — зьбірае даўнія беларускія царкоўныя сьпевы."***

**(А. Б.).**

## МІЖНАРОДНЫЯ СТАСУНКІ



### «ЭКАЛАГІЧНАЯ ШКОЛА БУДУЧЫНІ»

Міжнародны семінар па такой тэме прайшоў у Мінску на базе сярэдняй школы № 181, што знаходзіцца ў мікрараёне Паўднёвы Захад беларускай сталіцы. У гэтай школе ёсць ліцэйскія экалагічныя класы, дзе вучні разам з агульнаадукацыйнымі прадметамі глыбока вывучаюць пытанні экалогіі. У госці да юных беларускіх эколагаў прыехала дэлегацыя з польскага горада Зялёная Гура, дзе з 1988 года паспяхова працуе "Саюз экалагічных школ".

НА ЗДЫМКУ: вучань ліцэйскага экалагічнага класа СШ № 181 Павел ПРОХАРАЎ (справа) знаёміць польскіх гасцей з распрацаванай вучнямі яго класа сістэмай ачысткі ракі Мышкі, што працякае па тэрыторыі раёна Паўднёвы Захад.

**Фота Аляксандра ДЗІДЗЕВІЧА.**

ЗАХАВАЙ ТРАДЫЦЫЮ

# «СВЯТОЕ ВЯЛІЧКА — З ЧЫРВОНЫМ ЯЕЧКАМ»

Удапаведнасці з пастановай Нікейскага сабора (325 год) Вялікдзень адзначаецца ў першую нядзелю пасля веснавога раўнадзенства і поўні. Такім чынам, сёлета гэта свята прыпадае на 23 красавіка ў католікаў і 30 красавіка ў праваслаўных вернікаў.

Першапачаткова славяне адзначалі гэта свята ў гонар Бога Сонца. У дахрысціянскія часы падобныя святы былі і ў фінікійцаў, грэкаў, фрыгійцаў і іншых народаў. Цікава, што ў старажытных егіпцян уваскрэсенне вярхоўнага Бога Асірыса нават сустракалі словамі: "Асірыс уваскрэс!"

Хрысціянская назва гэтага свята — Пасха. Яно адзначаецца ў гонар уваскрэсення Ісуса Хрыста, які ахвяраваў сабой і гэтым пазбавіў людзей ад грахоў, дараваў ім вечнае замагільнае жыццё. Згодна з хрысціянскай міфалогіяй, Сын Божы быў распяты на крыжы ў пятніцу. У суботу яго прыхільнікі выпрасілі ў іудзейскага цара дазвол на пахаванне Ісуса Хрыста і перанеслі яго цела ў пячору, заваліўшы ўваход вялізным каменем. А ў нядзелю, калі Маці Божая прыйшла, каб апрануць сына ў пасмяротнае адзенне, Анёл абвясціў ёй, што Ісус Хрыстос уваскрэс... Дарэчы, праваслаўная царква лічыць Пасху самым значным святам, тады як католікі асабліва ўшаноўваюць Нараджэнне Хрыстова.

Апошні перадвелікодны тыдзень называецца "Страстным" — кожны яго дзень мае строга рэгламентаваныя абрады. Так, "у панядзелак неабходна шчыра пасціць, на цэлы дзень адмовіўшыся ад ежы і вады. Каб перасцерагчы сям'ю ад розных інфекцыйных захворванняў, у панядзелак і аўторак нельга трымаць у хаце што-небудзь бруднае, нямытае. У сераду вечарам гаспадыня кладзе пад страху хлеб, соль і мыла. З хлебам і асвячоным велікодным яйкам на Юр'я першы раз скаціну выганялі ў поле. Мылам мыліся назаўтра раніцай. Соль жа трымалі асобна для лячэння сурокаў".

Досвіткам у "чысты чацвер" абавязкова трэба было памыцца ў лазні або выкупацца ў палонцы — гэта забяспечвала добрае здароўе на працягу года. У гэты дзень таксама старанна прыбіралі ў хаце, мылі падлогу, вокны, бялілі хату. "У суботу зранку вешалі на вокны новыя фіранкі, на абразы — набожнікі, замешвалі ў дзяжы цеста на пірагі і з абеду распальвалі ў печы. Кожная гаспадыня рыхтавала святочныя стравы. Смажыла мяса, каўбасу, варыла цыбульнае шалупінне і фарбавала ў яго адвары велікодныя яйкі".

Дарэчы, яйка, якое сімвалізуе сусветную прастору і бясконцасць жыцця, — вельмі важны атрыбут гэтага свята. Яму надавалася магічная сіла: велікодныя яйкі закопвалі ў першую баразну ці на ўскрайку нівы, каб тая добра радзіла, імі абавязкова адорвалі адзін аднаго. З прыняццем хрысціянства гэтая традыцыя была пераасэнсавана: паводле праваслаўных біблейскіх паданняў, Святая Марыя Магдаліна, даведаўшыся аб пакаранні Ісуса Хрыста, прынесла ў падарунак рымскаму імператару Ціберыю чырвонае яйка як знак бязвіннасці Сына Божага і таго, што з гэтага часу ўвесь сусвет нясе на сабе адбітак яго бязвінна пралітай крыві.

На Вялікдзень яйкі асвячаюць у царкве, і затым на працягу трох дзён яны суправаджаюць літаральна кожны крок селяніна. "З яго пачыналі святочную вячэру, клалі ў посуд з вадой, якой умывалася ўся сям'я, каб быць здаровымі і прыгожымі, яйкі давалі гасцям і бралі з сабой, калі ішлі ў госці, імі дзяўчаты адорвалі хлопцаў, з якімі меліся браць шлюб".

Шалупінне гэтых яек змешвалі з зернем перад пасевам. Яйкі абавязкова бралі, калі збіраліся на могілкі на Радаўніцу. На магілах продкаў іх качалі, робячы крыж, а невялікія кавалачкі пакідалі для сілкавання душ продкаў. Калі першапачатковай традыцыяй было фарбаваць яйкі ў чырвоны колер, то пазней сталі ўжывацца і пісанкі — яйкі, размаляваныя старажытным геаметрычным ці раслінным арнаментам.

Абрадавай ежай на Вялікдзень з'яўляецца таксама спецыяльнай выпечкі хлеб — "пасха". Лічылася, калі ён спячэцца пышным, то сям'і будзе спадарожнічаць поспех.

Суботнім вечарам з кожнай сям'і звычайна гаспадар ці старэйшыя людзі ідуць у храм на "ўсяночную". Апоўначы вакол храма робіцца трайны абход, пасля чаго свяшчэннікі абвяшчаюць: "Хрыстос уваскрэс!" Гэтымі словамі на працягу нядзелі і наступных двух дзён хрысціяне вітаюцца са сваімі знаёмымі, роднымі, сябрамі. На што адказваюць "Ва ісціну ўваскрэс" і цалуюцца. Набажэнствы ў святочную ноч заканчваюцца гадзін каля чатырох. Пасля "ўсяночнай" усе спяшаліся дадому. У некаторых мясцовасцях лічылася: хто першы ўвойдзе ў вёску і раней за іншых прыйдзе ў сваю хату, у таго будзе лепшы ўраджай і ён хутка скончыць яго збор. Толькі цяпер, пасля доўгага сямітыднёвага посту, можна было "разгавецца" — уволю паласавацца рознымі стравамі.

Амаль ва ўсіх раёнах Беларусі ў першы велікодны дзень людзі сустракалі ўсход сонца. Казалі, што ў гэты дзень яно быццам "іграе", пераліваецца рознымі колерамі.

Распаўсюджаным было і такое павер'е: быццам бы кожны год, як і ў першыя дні сваёй смерці, ад Вялікадня да Ушэсця Ісус Хрыстос ходзіць па зямлі сярод людзей, найбольш у выглядзе жабрака. Таму да абяздоленых людзей ставіліся ў гэты час найбольш лаяльна і спачувальна, абавязкова надзялялі іх міласцінай.

Асаблівасцю беларускага святкавання Пасхі было таксама валачобніцтва, вельмі падобнае на зімовы абыход калядоўшчыкаў. За ноч валачобнікі паспявалі зайсці ў кожную хату, павіншаваць гаспадароў са святам, пажадаць ім здароўя і дабрабыту:

Песенька спета напроці лета,
А будзь жа весел, як вясна
красна,
А будзь жа ціхі, як ціха лета,
А будзь жа багаты, як багата
восень.

Станіслаў ШУШКЕВІЧ.

Полем, лесам, пералескамі,
Па зямлі, вясной абуджанай,
Красавік ідзе з пралескамі
Па праталінах і лужынах.

Фота Яўгена КАЗЮЛІ.

### КУЛІЧ З РАЗЫНКАМІ

**800 грамаў мукі, 200 грамаў сметанковага масла, 50 грамаў свежых дражджэй, 5 яек, 200 грамаў цукру, 1 шклянка малака, 200 грамаў разынак, соль.**

*Масла растапіць, уліць гарачае малако, дабавіць цукар, соль, перамяшаць і астудзіць да тэмпературы сырадою, пасля чаго ўсыпаць муку, уліць распушчаныя ў невялікай колькасці малака дрожджы, добра перамяшаць, паставіць у цёплае месца для браджэння. Калі цеста падымецца, дабавіць 5 жаўткоў, 5 узбітых у трывалую пену бялкоў, разынкі, добра вымесіць, пакласці цеста ў шчодра змазаную маслам, падпыленую мукою форму, запоўніць яе напалову. Калі цеста падымецца, выпякаць куліч пры тэмпературы 180 градусаў да гатоўнасці.*

### БАБА З ШАКАЛАДАМ І АРЭХАМІ

**300 грамаў мукі, 100 грамаў арэхаў, 200 грамаў цукру, 4 жаўткі, 200 грамаў сметанковага масла, 50 грамаў шакаладу, 100 грамаў малака, 4 бялкі, сода на кончыку нажа.**

**ДЛЯ АБСЫПКІ: цукровая пудра з ванілінам.**

*Масла з цукрам і жаўткамі ўзбіць да атрымання пышнай пены і поўнага растварэння цукру, дабавіць стружку шакаладу, здробленыя арэхі, уліць тонкім струменьчыкам малако, перамяшаць. Затым усыпаць муку, змешаную з содай, дабавіць узбітыя ў трывалую пену бялкі. Цеста пакласці ў змазаную маслам і падпыленую мукою форму, выпякаць да гатоўнасці. Астуджаную бабу выняць з формы, пасыпаць цукровую пудраю з ванілінам.*

*Заўвага: каб захаваць порыстасць цеста, трэба паставіць яго ў цёплае месца і пазбягаць скразнякоў, каб баба "не прастудзілася". Раскладзенае ў формы цеста нельга перасоўваць, бо яно асядзе. Каб захаваць выпечаную бабу порыстай і лёгкай, трэба, не дастаючы яе з формы, пакласці дагары нагамі на падушку і пакінуць да поўнага астывання.*

**Падрыхтавала Нэлі ПРЫВАЛАВА.**

СПОРТ: КАРАТЭ





Фота Мікалая ПЯТРОВА.

У адкрытым чэмпіянаце паўночных краін па каратэ па алімпійскай версіі WKF, які праходзіў у Фінляндыі, каратыстка спартыўнага клуба "Алімп" з Мінска чэмпіёнка свету Таццяна Пазняк заваявала першае месца. У спаборніцтвах спартсменаў з Фінляндыі, Швецыі, Даніі, Нарвегіі, Ісландыі беларусы выступалі ў якасці запрошаных і заваявалі ўсе прызавыя месцы. У аднаклубніка Таццяны Яўгена Краўчанкі — другое месца, а трэцяе — у каратыстаў з Наваполацка Віталя Дзьячкова і Канстанціна Каралёва.

НА ЗДЫМКАХ: каратысты Таццяна ПАЗНЯК і Яўген КРАЎЧАНКА са сваім трэнерам Віктарам ГРЫНЕВІЧАМ (у цэнтры); прызёр спаборніцтваў Таццяна ПАЗНЯК.

## ЛІТАРАВАЯ КРЫЖАВАНКА

*У КОЖНУЮ КЛЕТКУ КРЫЖАВАНКІ ПРАСТАЎЛЯЙЦЕ ПА ДЗВЕ ЛІТАРЫ АДГАДАНАГА СЛОВА-АДКАЗУ*

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.** 1. Народнае зімовае свята дахрысціянскага паходжання. 3. Калючая зброя, від кап'я. 4. Вялікая марская драпежная рыба. 6. Беларуская салодкая страва з густа заваранай жытняй мукі. 8. Вялікі марскі рак. 10. Саюз, аб'яднанне. 11. Цестападобнае рэчыва, густая сумесь. 13. Сена, снапы, складзеныя конусам. 14. Памер заработнай платы, аклад. 16. Старажытнарымскае адзенне накшталт кашулі. 18. Фехтавальная зброя. 19. Дэталь транспартнага сродку, якая змякчае штуршкі пры яздзе. 20. Летняя адкрытая прыбудова да дома. 22. Статак, гурт жывёл аднаго віду. 24. Алкагольны напітак. 25. Сталіца Перу. 26. Прадукт размолу збожжа. 27. Перамяшчэнне на нагах. 29. Беларускі народны танец. 32. Частка корпуса струннага музычнага інструмента. 34. Прадмет мэблі. 35. Аповесць Я. Коласа.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 1. Хахлаты аўстралійскі папугай. 2. Спартыўны снарад у лёгкай атлетыцы. 3. Інструмент для разразання дрэва, металу. 5. Найдрабнейшая часцінка хімічнага элемента. 6. Крупы з крухмалу. 7. Абласны цэнтр на Украіне. 9. Сталёвы каркас жалезабетонных збудаванняў. 10. Лісцевае дрэва. 12. Зімовая павозка. 13. Спартыўная барацьба. 14. Рака, правы прыток Віліі. 15. Бой тарэадора з быком у Іспаніі. 17. Ігральны дом. 18. Драпежны звер з каштоўным футрам. 21. Аўтагонкі на спецыяльных спартыўных машынах. 23. Усякі прадмет, які мае разгалінаванне ў выглядзе рагоў. (Разм.). 24. Кармавая расліна сямейства бабовых. 26. Двукрылае насякомае. 28. Французскі пісьменнік XIX стагоддзя. 30. Хімічны элемент, мяккі метал. 31. Засеянае поле. 33. Асобны здымак на фотаплёнцы.

**Падрыхтавала Святлана ФАЦЕЕВА.**



«Голас Радзімы»

Галоўны рэдактар Наталля САЛУК

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом "Радзіма".

РЭДАКЦЫЯ:
Намеснік галоўнага рэдактара **Галіна УЛІЦЁНАК.**
Адказны сакратар **Таццяна КУВАРЫНА.**
Рэдактар аддзела — член рэдкалегіі **Яўген ЛЕЦКА.**
Рэдактар аддзела **Алена СПАСЮК.**
Аглядальнікі **Юрась ЛЯШКЕВІЧ, Леанід МАРАКОЎ, Таццяна ХРАПІНА.**
Спецыяльны карэспандэнт **Нэлі ПРЫВАЛАВА.**
Рэдактар-перакладчык **Святлана КАРПУЧОК.**
Стыльрэдактар **Ірына КАЗЛОВА.**
Тэхнічны рэдактар **Данута РАКАВЕЦ.**

НАШ АДРАС: 220005, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: (+375-17) 213-31-97 (тэл.-факс), 213-32-80, 284-76-56, 213-37-82.

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.
Падпісны індэкс у Беларусі 63854.
Тыраж 1 828 экз.
Зак. 1094.
Падпісана да друку 24.4.2000 г. у 12.00.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).